 




*Прэзідыум нарады. Адкрывае яе. куратар школьнай акругі Эдвард Крынскі.*

# НАРАДА настаўнікаў

Зараз беларуская мова выкладаецца ў 144 пачатковых школах, размешчаных у пяці паветах: Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Сакольскім і Сямяціцкім, а таксама ў 3-х агульнаадукацыйных ліцэях у Бельску Падляшскім, Гайнаўцы і Міхалове. У пачатковых школах родную мову вывучаюць 9402 вучні, а ў ліцэях — 742.

Галоўнае праўленне БГКТ у сваёй дзейнасці многа ўвагі ўдзяляе навучанню роднай мовы і чыніць шмат намаганняў, каб добра развівалася беларускае школьніцтва.



*Удзельнікі нарады.*



*У памятную кніжку выстаўкі ўпісваецца прадстаўнік Міністэрства асветы Станіслаў Янкоўскі.*

Таму разам з кураторыяй і інспектаратамі асветы цесна супрацоўнічае, а гэта спрыяе ліквідацыі тых ці іншых цяжкасцей і недахопаў у працы паасобных школ і ў вырашэнні школьных праблемаў.

19-га снежня Галоўнае праўленне БГКТ супольна з кураторыяй арганізавалі нараду настаўнікаў беларускай мовы. Прыбыло іх у памяшканне ГП 114 асоб. Вёў нараду і выступіў з абшырным дакладам «Задачы настаўнікаў беларускай мовы ў галіне ўдасканальвання дыдактычна-выхаваўчай працы» куратар Эдвард Крынскі. Прысвяціў ён многа ўвагі павышэнню эфектыўнасці ўрокаў па беларускай мове.

Другі даклад быў прачытаны членам прэзідыума ГП БГКТ Мікалаем Гайдуком. Датычыўся ён ролі настаўнікаў беларускай мовы ў працах гурткоў БГКТ, асабліва іх дапамогі ў развіцці мастацкай самадзейнасці.

Падчас дыскусіі настаўнікі звярнулі ўвагу на наступныя справы: а) неабходнасць арганізавання пры філіяле Варшаўскага універсітэта беларускай філалогіі, б) неабходнасць новай праграмы па беларускай мове і патрэбных розных дапаможнікаў, а перш за ўсё падручніка па методыцы і спецыяльных фільмаў, в) неабходнасць павышэння педагагічнага майстэрства ў выкладанні роднай мовы, бо яно прычыняецца да павелічэння колькасці навучэнцаў гэтага прадмета. Была закранута таксама справа аўтобуса для ГП БГКТ, якім школьнікі так, як некалькі год таму назад, маглі б выязджаць на краязнаўчыя экскурсіі.

Выступілі ў дыскусіі таксама прадстаўнік Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі Станіслаў Янкоўскі, сакратар ГП Янка Зенюк і член прэзідыума ГП Аляксандр Баршчэўскі.

У нарадзе прынялі таксама ўдзел Станіслаў Зялінскі і Уладзіслаў Залеўскі з Ваяводскага камітэта ПАРП, Тадэуш Шынкоўскі і Станіслаў Дзем'янюк з Міністэрства ўнутраных спраў, Ільдя Федаровіч — з аддзела ўнутраных спраў ВРН і Вацлаў Філіпкоўскі з кураторыі.

Перад удзельнікамі нарады эстрадная група «Лявоніха» выступіла з канцэртам.

*М. Хмялеўскі*

*Фота Цаф П. Савіцкі*



*Настаўнікі з вялікім зацікаўленнем агледалі выстаўку беларускай народнай вышыўкі.*




## Каштоўнае даследаванне

«Польская і руская літаратуры пры ўсёй іх незалежнасці і разнастайнасці маюць многа супольных рысаў, выказваюць таксама несумненную роднасць гэтых двух найбліжэйшых сабе суседніх народаў», — падкрэслівае ва ўступе да сваёй кнігі «З гісторыі ўзаемных польска-рускіх літаратурных сувязяў XIX стагоддзя»[1]) дац. др Васіль Белаказовіч — загадчык кафедры рускай літаратуры XIX ст. Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Абшырная — каля 30 выдавецкіх аркушаў — і глыбокая гэтая праца вядомага даследчыка ўзаемасувязяў паміж польскай і рускай літаратурай складаецца з шасці раздзелаў ды ўступных і заключных заўваг. І хоць аўтар заўважае ва ўступе, што «У гэтай кнізе мы займаемся *выбранымі* праблемамі ўзаемных літаратурных сувязяў XIX і пачатку XX стагоддзя, якія маюць надзвычай вялікае значэнне ў падзеях польскай і рускай культуры», гэтаму даследаванню па праву належыцца званне ўсебаковага энцыклапедычнага агляду польска-рускіх сувязяў мінулага і пачатку бягучага стагоддзяў, агляду, які не толькі падводзіць вынікі дагэтуль зробленаму польска-рускай кампаратыстыкай[2]), але і называе канкрэтныя тэмы і напрамкі для далейшых гісторыка-літаратурных пошукаў.

У першым раздзеле «У атмасферы ўзаемнага зацікаўлення, набліжэння і супрацоўніцтва» В. Белаказовіч разглядае ўзаемаадносіны паміж польскай і рускай літаратурамі ў пачатку XIX стагоддзя, калі руская літаратура «развівалася пад уплывам дзекабрызму», а «польская літаратура карысталася вялікай прыхільнасцю сярод дзекабрыстаў». Тут аўтар адводзіць значнае месца Віленскаму універсітэту і паказвае яго ролю не толькі ў руска-польскім збліжэнні, але і «абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў, літоўцаў, украінцаў». Глыбокаму аналізу падвергнуты ўзаемаадносіны паміж Міцкевічам і Пушкіным, пры гэтым аўтар працы звярнуў асаблівую ўвагу на ўзаемнае ўздзеянне тэмаў і форм у творчасці абодвух вялікіх славянскіх паэтаў.

У наступным раздзеле «Аляксандр Герцэн і Адам Міцкевіч у святле вядомых і нядаўна знойдзеных дакументаў» аўтар даследавання, разглядаючы суадносіны паміж гэтымі духоўнымі кіраўнікамі рускай і польскай палітычна-літаратурных эміграцый, звяртае ўвагу на літаграфію віленскага мастака Ю. Азямблоўскага (1804—1878) «Славянскі нявольнік», якая прадстаўляе беларускага прыгоннага селяніна і якая выклікала ў А. Міцкевіча і А. Герцэна асаблівае зацікаўленне як мастацкае адлюстраванне гаротнага лёсу беларускага сялянства ў часы панавання прыгону і царскага самадзяржаўя.

Трэці раздзел «Польскі нацыянальна - вызваленчы рух у рускай паэзіі XIX стагоддзя» вучоны прысвяціў усебаковаму разгляду складаных узаемаадносін паміж прадстаўнікамі польскай і рускай літаратуры ў перыяд двух польскіх паўстанняў — лістападаўскага 1831 года і студзеньскага 1863 года. Прыводзячы даследаваныя ўжо факты і пускаючы ў навуковы абарот новыя дакументы, В. Белаказовіч даў аб'ектыўную ацэнку тым гарачым часам, узаемным польска-рускім спрэчкам і асуджэнням, паказваючы пры гэтым у поўным святле шляхетныя постаці А. Герцэна і М. Міхайлава і іх шчырую прыхільнасць да польскага вызваленчага руху.

Апошнія тры раздзелы кнігі (IV — «Генрык Сянкевіч і яго адносіны да рускай літаратуры», V — «Вайна і мір» Л. М. Талстога, «Трылогія» Г. Сянкевіча і «Попел» С. Жаромскага» і VI — «Генрык Сянкевіч ва ўспрыйманні рускіх пісьменнікаў»), як ужо відаць з іх загалоўкаў, прысвечаны разгляду абшырнага кола праблем, звязаных з гэтымі трыма волатамі славянскіх літаратур. Пры гэтым др В. Белаказовіч — высокага рангу філолаг — не прамінуў напомніць аб цалкам недаследаванай праблеме ўздзеяння беларуска-ўкраінскіх пераходных гаворак Падляшша на мову твораў аўтара «Трылогіі».

Цалкам піянерскі характар мае апрацаваная В. Белаказовічам і змешчаная ў канцы кнігі абшырная бібліяграфія публікацый у польскім, рускім і сусветным друку, прысвечаных узаемасувязям польскай і рускай літаратур XIX і пачатку XX стагоддзяў. Бібліяграфія змяшчае 832 пазіцыі. Гэта першая ў гісторыі польскай літаратуры спроба апублікаваць бібліяграфію па гэтай тэме.

*Мікалай Гайдук*

---

1) Bazyli Białokozowicz, „Z dziejów wzajemnych polsko-rosyjskich związków literackich w XIX wieku", Warszawa 1971 .

2) кампаратыстыка або кампаратывістыка — раздзел філалогіі, які займаецца параўнальна - гістарычным вывучэннем блізкіх моваў або літаратур.

---

### ІНВЕСТЫЦЫЙНЫЯ ПЛАНЫ

Прадбачваецца, што ў рамках інвестыцый рад нарадовых на гаспадарчае развіццё Беластоцкага павету ў цякучай пяцігодцы будзе выдадзена 362,7 мільёна зл.

Асноўным напрамкам у гэтых капіталаўкладаннях будзе сельская гаспадарка, на якую прыпадае больш 80 працэнтаў агульнай колькасці сродкаў. За гэтыя сумы будзе ў далейшым праводзіцца меліярацыя, электрыфікацыя вёсак і калёній, пабудова студняў і водаправодаў на вёсцы, ветэрынарных амбулаторый, аграномовак і інш.

Значная частка сродкаў прыдзяляецца на дарожныя справы. У Засцянках будзе пабудавана база для тэхнічнага абсталявання і дарожных машын. Апрача таго, прадбачваецца пабудова будынку для дарожніка ў Гарадку і 7-мі жалезабетонных мастоў.

У галіне асветы плануецца пабудова агульнаадукацыйнага ліцэя з інтэрнатам і дзіцячага сада на 60 месц. У планах прадбачана таксама пабудова пункта аховы здароўя ў Дабжынёўцы. (ак)

### БУДЗЕ НОВАЯ ШКОЛА

З добрым грамадскім пачынам выступілі сяляне вёсак Калодна і Крулёвы Мост у Беластоцкім павеце.

Дзякуючы намаганням грамадскай рады ў Крулёвым Мосце, удалося атрымаць амаль новы драўляны двухпавярховы будынак з разборкі ў Беластоку. Сяляне Калодна і Крулёвага Моста грамадскім чынам разабралі будынак і перавезлі яго. З гэтага матэрыялу будзе пабудавана двухпавярховая школа. Патрэбная да пабудовы дакументацыя і сродкі ўжо ёсць. Памеры будучага будынка дазваляюць прасторна і зручна размясціць у ім васьмікласную пачатковую школу, якая цяпер знаходзіцца ў вельмі цесных і нязручных для навучання памяшканнях. Пасля пераходу школы ў новы будынак, у звольненых будынках атрымаюць памяшканні грамадскі пункт аховы здароўя, грамадская бібліятэка і чытальня, а таксама знойдзецца месца на грамадскую святліцу. Усе гэтыя ўстановы напэўна будуць спрыяць актывізацыі культурнага жыцця ў грамадзе, бо яно тут цяпер вельмі слабое. (мг)





 

# ПТУШКАГАДОЎЛЯ — ГЭТА АПЛОЧВАЕЦЦА

Нядаўна гутарыў я з сялянамі Дуброўскага павету, якія па запрашэнню сваякоў прабывалі ў Злучаных Штатах.

— Пане, — гаварылі мне, — у Амерыцы найтаннейшае мяса з птушкі. Яны маюць спецыяльныя фермы, у якіх вельмі хутка птушка корміцца, і таму гэтае мяса найтаннейшае.

Вакол птушкагадоўлі ў нас таксама бывае «голасна». Эфекты гэтага відавочны. Даволі сказаць, што зараз прадукцыя павялічылася ў два разы ў параўнанні з 1965 годам, а планы прадугледжваюць павялічыць гэтую прадукцыю ў 1975 годзе зноў у два разы, так каб яна раўнялася 8,3 тыс. тон мяса ў год.

Павелічэнне прадукцыі птушынага мяса пацягне за сабой абніжку цаны гэтага мяса. Каб гэта здзейсніць, спалучаны два прадпрыемства: інкубатарскае з яйчарска-птушачным. У канцы мінулага (1971) года зроблены закуп куранят спецыяльнага гатунку ў Чэхаславакіі і Венгрыі. Дазваляе ён хутка вырошчваць курынае мяса.

Зразумела, што будучыня птушкаводства — гэта вялікія фермы. Такія фермы могуць весці маладыя адукаваныя гаспадары, і таму беластоцкае яйчарска-птушачнае прадпрыемства лічыць перш за ўсё на гэтых людзей. Калі хто-небудзь з гаспадароў вырашыць заняцца птушкаводствам, ён можа атрымаць ад дзяржавы крэдыт на пабудову куратніка. На кожную адну штуку кураняці дзяржава прызнае 100 зл. крэдыту, а гэта абазначае 50 прац, коштаў. Інакш гаворачы, калі агульны кошт фермы выносіць 1 мільён злотых, дык гаспадар можа атрымаць 500 тыс. злотых крэдыту ў банку.

Так, так дарагі чытач. Разумею. На тваіх вуснах пытанне: ці аплочваецца гадаваць, напрыклад, брайлераў? Тыя, што вядуць фермы, адказваюць станоўча «так». Я прывяду прыклад, калі чысты прыбытак з аднаго кураняці выносіць 4 зл., г.зн. найніжэйшы, які прадугледжвае прадпрыемства. (Калі прыбытак ніжэй 4 зл., прадпрыемства рэзыгнуе з падпісання далейшай умовы на кантрактацыю). Дапусцім, ферма аднаразова змяшчае 10 тыс. штук брайлераў. У сярэднім пяць разоў у год здаюць гэтых куранят, г. зн. 50 тыс. штук. Далейшы рахунак просты — 200 тыс. чыстага прыбытку. Для зацікаўленых хачу дадаць, што ў беластоцкіх птушкаводаў чысты прыбытак выносіць 8, а часта і 9 зл. на адным брайлеры.

Справа птушкаводчых фермаў, гэта справа тых, хто свае гаспадаркі хоча пераставіць на гэтую галіну спецыялізацыі.

Найбольш распаўсюджанай галіной з'яўляецца яйчарства. Як вядома, яйкі паходзяць у асноўнай масе з індывідуальных гаспадарак, як дадатковая іх прадукцыя. Гэтага нельга перааценіць. У мінулым годзе ў нашым ваяводстве скуплена 30 мільёнаў штук яек, а гаспадары атрымалі за яйкі 272 мільёны зл. Гэтая, нібы мімаходная, прадукцыя з'яўляецца, як бачым, не такім ужо малым «уколам» у прыбытках гаспадароў. Калі яшчэ абавязвалі старыя цэны на малако, хтосьці падлічыў, што лепш аплочвалася гадаваць 30 нясучыхся курыц, як адну карову. Нягледзячы на тое, што цэны на малако павысіліся, гэтага прыкладу нельга траціць з вачэй.

Беластоцкае яйчарска-птушачнае прадпрыемства займаецца адкормам качак і гусей. У мінулым годзе з Польшчы экспартавана ў Савецкі Саюз 2 тыс. тон качынага мяса, у тым ліку 200 тон паставіў Беласток. Нашыя качкі так пасмакавалі суседзям, што зрабілі яны запатрабаванне на 20 тыс. тон качынага мяса. А беластоцкія гусі, кажуць настолькі смачныя, што пакуль што няма на іх канкурэнцыі на заходнегерманскім рынку.

Адным словам, прадукцыя птушынага мяса мае аграмадную перспектыву развіцця, яна і рэнтабельная, і патрэбная нашай гаспадарцы.

*А. Карпюк,*
*фота аўтара*



*3-пад такой машыны выходзяць першаякасныя запакаваныя качкі.*



*Гэтыя гусі. ўжо на сталах у ФРГ.*

## Міжшкольны конкурс на найлепш арганізаваную вечарыну, прысвечаную 90-ай гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа

1) Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца:

Кураторыя Беластоцкай школьнай акругі, Акруговы метадычны цэнтр, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя «Нівы».

2) Мэта конкурсу:

— папулярызаваць сярод беларускай школьнай моладзі і дарослых творчасць Я. Купалы і Я. Коласа,

— на прыкладзе іх творчасці паказаць прыгажосць роднай мовы,

— павысіць ранг беларускай мовы як прадмета ў школе і ў беларускім асяроддзі,

— прывучыць школьную моладзь арганізоўваць розныя ўрачыстасці і выступаць публічна.

3) Конкурс з'яўляецца мерапрыемствам, якое мае ідэйна-выхаваўчую ролю і абмяжоўваецца толькі да школьных агляддаў.

4) У конкурсе могуць прымаць удзел пачатковыя школы (4-класныя і 8-класныя), а таксама сярэднія школы.

5) Спосаб падрыхтоўкі і правядзення вечарыны з'яўляецца і залежыць толькі ад вынаходлівасці саміх арганізатараў (моладзі і настаўнікаў паасобных школ). У вечарыне можа быць: даклад, дэкламацыі твораў, мантажы, песні, згадуй-згадуля, інсцэніроўкі твораў або фрагментаў твораў, дэкарацыя і г.д.

6) Вечарына павінна мець характар урачыстасці з удзелам не толькі школьнай моладзі і педагагічнага савета, але і грамадства данай мясцовасці.

7) Конкурс будзе працягвацца ад 1.III. па 15.XI. 1972 года.

8) Для падвядзення вынікаў конкурсу будзе створана камісія, у склад якой увойдуць прадстаўнікі кураторыі БША, Акруговага метадычнага цэнтра (секцыя беларускага школьніцтва), ГП БГКТ, рэдакцыі «Ніва» і аддзелаў асветы.

9) Школы, якія прымаюць удзел у нашым конкурсе, абавязаны ў адпаведным часе паведаміць сваім аддзелам асветы, а тыя, у сваю чаргу, арганізатарам пра месца і час вечарыны.

10) Школы-пераможцы атрымаюць узнагароды калектыўныя і індывідуальныя.

**Беларуская ЛІТАРАТУРА** АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### САТЫРЫЧНЫ ЖАНР — ЧАСТКА II

Ліст да Абуховіча. Сатырычны твор дайшоў да нашых дзён у трох спісках. Мяркуюць, што быў ён напісаны ў першым дзесяцігоддзі другой паловы XVII ст. Даследчыкі прыпісваюць гэты твор Цыпрыяну Камуняку. Зрэшты, прыпісанне аўтарства Камуняку не мае глыбейшага значэння, бо і так нічога канкрэтнага аб гэтым чалавеку мы не ведаем. Сучасны беларускі літаратуразнаўца Мікалай Прашковіч піша: «Крытыка ў лісце да Абуховіча», як і ў «Прамове Мялешкі», накіравана супраць польскага засілля на беларускіх землях, якое ў сярэдзіне XVII ст. было вельмі адчувальным». (Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, Мінск 1968 г., т. I. с. 350—351). Ацэнка занадта абагульняе, яна не высвятляе, а толькі зацямняе характар «Ліста да Абуховіча». Па-першае, нельга ставіць у адным радзе гэтых двух твораў, бо ў іх многа рознага. Розніца выступае ў тым, што тады, калі твор «Прамова Мялешкі» быў пародыяй на сапраўдную, мабыць, прамову Мялешкі і высмейваў, карыстаючыся іроніяй, аратарскія здольнасці і змест выступленняў Мялешкі, дык «Ліст да Абуховіча» з'яўляецца непасрэднай атакай на Абуховіча. У гэтым апошнім творы аўтар не хаваецца, не падшываецца пад якую-колечы постаць. Выказвае свае думкі, сваю крытыку непасрэдна ад свайго імя, атакуе ў лоб. У «Прамове Мялешкі» аўтар укладваў герою твора ў вусны крайнія фармуліроўкі, прымітыўныя меркаванні, адсталыя погляды і такім чынам кампраметуе свайго героя. У «Лісце да Абуховіча» паядынак з героем твора вядзецца ў іншай плоскасці. Тут яўна выступаюць дзве постаці: постаць героя і постаць аўтара, які ў непасрэднай, «чыстай» барацьбе знішчае героя.

Па-другое, нельга згадзіцца з фармуліроўкай Прашковіча, калі ён гаворыць, што «Ліст да Абуховіча» з'яўляецца праявам барацьбы з «польскім засіллем». Ствараецца тады ўражанне, што галоўным элементам твора з'яўляецца барацьба з Рэчыпаспалітай. Ставіць справу так, дык значыць, убачыць у творы іголку, але не ўбачыць слана. Галоўнай праблемай «Ліста да Абуховіча» ёсць аддача Абуховічам рускаму войску Смаленска. Аўтар твора ненавідзіць Абуховіча за тое, што аддаў Смаленск рускай дзяржаве, але не за тое, што служыў Рэчыпаспалітай. Калі і мае ў гэтым аспекце прэтэнзіі да Абуховіча, дык толькі за тое, што ён дрэнна служыў Рэчыпаспалітай. Значыць, атакуе Абуховіча за тое, што ён прыслужыўся рускім і дрэнна служыў палякам. Інакш разумець гэтага твора нельга. Кожная іншая інтэрпрэтацыя «Ліста да Абуховіча» будзе інтэрпрэтацыяй парочлівай, тэндэнцыйнай і нязгоднай з духам і літарай твора.

Супольнасць паміж гэтымі творамі праяўляецца ў тым, што і адзін, і другі не разважае нейкіх абстрактных праўд, паняццяў, а рэзка, сатырычна высмейвае погляды, прынцыпы канкрэтных людзей: Мялешкі і Абуховіча. Зразумела, што гэтыя погляды і прынцыпы могуць быць абагулены, могуць быць прыпісаны многім іншым тагачасным дзеячам ці цэлым слаям грамадскасці.

Вернемся да генезіса «Ліста да Абуховіча». Яго паяўленне было выклікана фактам здачы Смаленска ў 1654 г. рускаму войску. Цяжка нам сёння гаварыць аб стратэгічных здольнасцях Абуховіча, які, як бы там не было, больш чым сто дзён бараніў Смаленск, урэшце Смаленск здаў. Здаў, зрэшты, на ганаровых умовах. Атрымаў магчымасць вывесці сваё войска і сваю маёмасць з горада. Нарадзіліся аднак падазрэнні, што Абуховіч здаў горад праднамерана, наўмысна, што ўзяў ад рускіх войск грошы. Такія падазрэнні, як піша Прашковіч, паявіліся нават у польскім сейме.

Няма сумненняў, што Абуховічу не было прыемна выслухоўваць такія закіды. Хто ведае, ці атмасфера, звязаная з гэтымі справамі, не прычынілася ў нейкай ступені да смерці Абуховіча, якая наступіла ў 1658 годзе. Рэабілітацыі для яго шукалі пасля смерці бацькі яго сыны і, як гаворыць Прашковіч, дабіліся яе.

Значыць, аўтар «Ліста да Абуховіча» прымае пункт гледжання, што Абуховіч здраднік. Хто ведае, ці аўтар «Ліста» не быў знаёмым Абуховіча, ці не быў з ім у канфлікце, ці не выкарыстаў факту няўдачнай абароны Смаленска як прадлогу да помсты. Хто ведае, ці не Камуняка як раз быў ініцыятарам нападаў на Абуховіча. Ананімы, плёткі, правакацыі ў тагачасным жыцці былі з'явай частай. Ці ж не мог іх выкарыстаць і Камуняка?

Зрэшты, гэта толькі домыслы, якія не маюць значэння. Пяройдзем да зместу «Ліста да Абуховіча». Пачынаецца твор ад сатырычна-іранічнага тлумачэння, чаму ён — аўтар не тытулуе Абуховіча ваяводаю. «Не гневайся, Твоя Мілость, на мене, што тытулу воеводского не доложів. Напісавші б я воеводою Смоленскім, то бы солгав». Салгаў бы таму, што Абуховіч, аддаўшы Смаленск і вярнуўшыся пасля «перапуду Московского» дадому, не заслугоўвае на тытул. І тут аўтар панёс ва ўсю. Перастаў лічыцца са словамі, пачаў абзываць і абсыпаць Абуховіча найгоршымі эпітэтамі. Паслухайма Камуняку яшчэ: «Я так розумею: колі Смоленск оддалі, то і тытул продалі. Много людей об тым звешчалі, што люде і гроші побралі. Лепей было, пане Філіпе, седець табе у Ліпе. Увалявсе есь у вялікую славу, як свіня у грязь, горш то ся стало, калі хто

 

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

### САЦЫЯЛЬНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ЧЛЕНАЎ СЕЛЬСКІХ ВЫТВОРЧЫХ КААПЕРАТЫВАЎ

Закон з 26 кастрычніка 1971 года дае членам сельскіх вытворчых кааператываў і членам іх сямей такія самыя правы ў галіне сацыяльнага забеспячэння, з якіх карыстаюцца ўсе працаўнікі дзяржаўных і грамадскіх прадпрыемстваў, асабліва ў дзяржаўных сельскіх гаспадарках.

Новы закон дае права да:

1. Выплат, якія належацца працаўніку ў выпадку хваробы і мацярынства, у тым ліку грашовыя дапамогі, лячэнне, атрымоўванне лекаў па зніжаных цэнах і пратэзіраванне.

2. Сямейныя дапамогі.

3. Забеспячэнні на старасць, інвалідства і смерць у форме пенсій для члена кааператыва і членаў яго сям'і, пахавальнай дапамогі і дапамогі натуральнай, як лячэнне, прыспасабленне да выконвання гэтай прафесіі і г.д.

Дапамога ў выпадку хваробы аблічваецца на аснове даходу, які працаўнік атрымаў за кожны дзень у папярэднім разліковым годзе, за не большую колькасць дзён, чымсьці было адпрацавана ў папярэднім годзе, уключаючы ў гэта час водпуску і хваробы ў папярэднім годзе.

Права да сямейнай дапамогі атрымоўвае член кааператыва, калі ў папярэднім разліковым годзе працаваў прынамсі: мужчына 240 дзён, а жанчына 150 дзён. Пры меншай колькасці адпрацаваных дзён атрымоўвае дапамогу за столькі месяцаў, колькі перапрацаваў у папярэднім годзе, лічачы мужчыне за месяц 20 дзён працы, а жанчыне 13 дзён.

За першыя тры месяцы працы сямейнай дапамогі не выплочваюць, хіба што член кааператыва перад уступленнем у кааператыў меў права да гэткай дапамогі.

Пенсію па старасці могуць атрымаць: мужчына, калі яму споўнілася 65 год, а жанчына, калі ёй 60 год, ды калі перапрацавалі яны ў кааператыве прынамсі 25 год. Да гэтага часу далічваецца час працы ў індывідуальнай сельскай гаспадарцы. Аднак далічыць гэткую працу можна толькі тым, хто працаваў у вытворчым кааператыве прынамсі 10 год, або ўнёс у кааператыў гаспадарку не меншую, чымсь 2,5 пералічаных гектараў і перапрацаваў у кааператыве прынамсі 5 год.

Асновай да аблічэння пенсіі з'яўляецца даход за апошні разліковы год, або свабодна выбраныя два гады за апошнія 12 год працы ў кааператыве.

Таму, хто працаваў у кааператыве звыш 10 год, далічваецца за кожны далейшы год 1% пенсіі, аднак не больш чымсьці за далейшых 10 год.

Таму, хто мае права да пенсіі, выплочванне пенсіі спыняецца ў выпадку, калі б ён забраў назад землі, унесеныя ў кааператыў.

Безумоўна новы закон умоцніць сувязь членаў сельскіх вытворчых кааператываў з кааператыўнай гаспадаркай і заахвоціць сялян запісвацца ў кааператывы.

*В. Склубоўскі*

## ПРА ЛЬВОЎ, СВІНЕЙ І «ВОЛГУ»

Імчымся праз вёску Гуковічы. Што ж, звычайная, на першы позірк, сярэдняй велічыні вёсачка, якіх многа ў Гайнаўскім павеце. Раптам сябар усклікае:

— Глядзі, што за дзіва!

Шафёр спыняе машыну, выходзім на вясковую вуліцу і глядзім на шчыт вясковай хаты, дзе два жывапісна адмаляваныя, «як жывыя» ільвы або тыгры рыхтуюцца да драпежнага скоку. Ды не толькі ільвы прыкоўваюць нашу ўвагу. Сярод пастарэлых драўляных будынкаў цэлая гэтая хата вылучаецца яркім, карычневым колерам. Дык стаім і глядзім, а вясковыя людзі глядзяць на нас. Ім напэўна таксама дзіўна, што нейкія «паны» спыніліся вось на вуліцы і стаяць, галовы ў неба задзёршы, ды яшчэ фотаапаратам «пстрыкаюць».

Сяргей Каліноўскі, клейніцкі «войт», што спадарожнічаў нам, першы парушыў «мастацкую цішыню».

— Гэта хата Яна Раманюка, нашага мясцовага мастака, — паясніў. — Я вам ужо гаварыў пра яго.



*Раманюкі: бацька і сын. Першы — вясковы мастак і заслужаны дзеяч, другі — вопытны гаспадар.*

*Фота: Янка Цялушэцкі*

Так, праўда. Ян Раманюк — грамадскі апякун бездапаможных, выпрабаваны грамадскі дзеяч з даваенным стажам, член КПЗБ і вязень санацыі за «райскі бунт», а цяпер член павятовага камітэта партыі і павятовай рады, актывіст Фронту адзінства народу.

З такім чалавекам варта пазнаёміцца. Заходзім на панадворак. З-пад гумна, згледзеўшы няпрошаных гасцей, ідзе нам на сустрэчу пастарэлы ўжо гаспадар, а за ім — сын.

Заходзім у хату. Ён, Ян Раманюк, яго жонка, сын Мікалай і мы — карэспандэнты «Нівы», як добразычліва называюць нас у вёсках. Мастацкія здольнасці гаспадара і тут відаць «як на далоні». Сцены і столь сваёй хаты адмаляваў ён адмысловымі рознаколернымі кветкамі і цэлымі карцінамі з «жыцця прыроды».

— У мяне такія здольнасці ад маленства, — паясняе гаспадар. — Каб я мог вучыцца, як вы цяпер, — уздыхае, — можа маляваў бы, як Рэпін, або Матэйка... Хто ведае... Бо штосьці мяне цягне да фарбы. Не смейцеся, адразу ж пасля вайны я нейкі час быў нават на практыцы ў аднаго маляра ў Беластоку, але што ж, на гаспадарку прыйшлося вяртацца.

Ад мастацтва пераходзім... да свіней.

— Пра гэта хай мой сын раскажа, ён у нас цяпер галоўны гаспадар. Мне, старому, галавы ўжо не хапае да ўсіх гэтых азотаў, азатоксаў ды іншых фосфараў і патасаў, або мяшанак то «Т», то «Б», то чаго іншага яшчэ.

Малодшы гаспадар гаворыць коратка, сціпла, без сентыменту. У яго голасе чуваць рашучасць і ўпэўненасць, што трапна выбраў свой жыццёвы шлях.

— Гаспадарка ў нас невялікая, чатыры з палавінай гектара ворыўнай зямлі, якасць якой на сярэднім узроўні. Мы спецыялізуемся ў гадоўлі свіней, якія ідуць у мяне першым класам, па звыш 28 злотых за кілаграм жывой вагі. Цяпер маю 8 кормнікаў і нейкіх 13 парасят. Свіней не кармлю даўжэй паўгода, бо не аплоціцца. Затым трымаю двое цялят і тры дойныя каровы, ад якіх летам здаю да 30-ці літраў малака у суткі, па тры з лішнім злотых за кожны літр. Жыць можна, асабліва цяпер, калі і цэны на нашы тавары вышэйшыя і абавязковыя пастаўкі будуць ад першага студзеня адменены. Толькі яшчэ з нецярплівасцю чакаем электрыфікацыі вёскі, якая запланавана на наступны год. Без электрыфікацыі я не ў сілах далей разбудоўваць сваёй гаспадаркі. Хацелася б абсталяваць сабе і ваду, і электрапарнік, і электрычную сілу, і многа іншых карысных ды аблягчаючых нам працу прылад і абсталяванняў.



*Дом Раманюкоў прыкоўвае ўвагу кожнага, хто наведае Гуковічы ў Гайнаўскім павеце.*

— Ад вёдраў з вадой, — уключаецца гаспадыні, — нам ужо рукі адрываюцца. А сын наш — чаго саромішся, сам сказаў бы! — добры гаспадар, няма што наракаць. Мы нават «Волгу», таксоўку значыць, сваю маем.

— «Волгу»? А не лепш было купіць вам трактар?

— Не, не лепш, — рашуча адказвае Мікалай Раманюк. — На такой гаспадарцы, як мая, трактар не аплоціцца. За гурткоўскі заплачу я ў год тысячу злотых і ўсё мне заарэ. Дык уласны трактар хутчэй бы разбіў на кусочкі, чым вярнуў бы за яго свой кошт. Па-суседску, у Клейніках маем мы міжгуртковую базу і гэтага нам дастаткова. А «Волга» для сваёй выгоды. Я ж не горшы ад нейкага гарадскога пана.

*Віктар Рудчык*

упадє у новым кожусе у густое болото, у обмовах людзкіх і у срамоті седіть, як децел у дуплі».

Аўтар вядзе франтальную атаку не толькі на Абуховіча, але на ўвесь яго род. Дабіраецца да карэнняў, задае бобу і яго бацьку, і яго дзеду. «Дзед Твоей Мілості колі генералом быв в Мозыру, то — слышав — што за малые грошы неправду продавав. Пан отец Вашмості, судёю будучі Мозырскім за моей памяті, у кого больш взяв, того хорошо осудів. Колі небошчік з тэго света уступів, мозыране вельмі рады былі».

Зварот «за маёй памяці» якраз можа сведчыць аб тым, што Камуняка ведаў асабіста сям'ю Абуховічаў, што мог быць з ёю ў канфліктавых адносінах. Але гэта не абавязкова, бо зварот можа быць толькі літаратурным прыёмам, які падкрэслівае кампетэнтнасць аўтара ў сямейных практыках і схільнасцях Абуховічаў.

Атакуе Камуняка Абуховіча і як чалавека, і як вайсковага, і як пасла. Усё гэта, у пераканання аўтара, дадатковыя аргументы на тое, каб лічыць Абуховіча здраднікам, жулікам, прайдзісветам. Аднак галоўная праблема твора — гэта здача Абуховічам Смаленска, а яна найбольш баліць аўтару, яна выклікае яго абурэнне, да яе аўтар вяртаецца некалькі разоў. Зрэшты, ставіць справу проста, абвінавачвае Абуховіча ў тым, што здаў Смаленск за грошы, што прадаў горад як Іюда Хрыста за сярэбранікі. І тут аўтар выразна гіпербалізуе, перабольшвае, іранізуе. Даказвае, што Абуховіч пасля здачы Смаленска валок на трыста падводах сваю маёмасць, якую іранічна называе «пасцеллю». Паслухайма яшчэ раз Камуняку: «Трыста падвод пад одну постель Москва дала. То б гэто не постаць была так вельмі цяжкая! Хыба каждая перына абернулася в чэрвоные золотые».

Прыведзеныя цытаты па сутнасці высняюць усё. Аўтар балюча перажывае факт нарушэння ўсходняй мяжы Вялікага княства Літоўскага і катэгарычна атакуе чалавека, які не абараніў цэласці княства.

Зразумела, што і праблемы, закранутыя ў «Прамове Мялешкі», і «Ліст да Абуховіча» не былі праблемамі істотнымі для народа, для простага чалавека. Тагачасны «просты люд» думаў аб бядзе, якая спадарожнічала яму на працягу ўсяго жыцця і мала, мабыць, займаўся справамі нямецкага ўплыву, новымі модамі, гадзіннікамі і Абуховічамі. І таму яшчэ раз нельга згадзіцца з Прашковічам, калі ён гаворыць, што ў «Прамове Мялешкі» і «Лісце да Абуховіча» найбольш поўна выявілася ідэалогія народных мас» (Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, Мінск 1968, т. 1. с. 353).

Абодва названыя творы з'яўляюцца, несумненна, крокам наперад у беларускай літаратуры. Адносіцца гэта перш за ўсё да формы, да мастацкіх прыёмаў, і ў меншай ступені да зместу. Змест па сутнасці развівае элементы той тэндэнцыі, якая ў пэўнай ступені выступала ўжо і ў «Летапісах», і ў «Баркалабаўскай хроніцы», і ў палемічнай літаратуры.

Пачатак на стар. 1




іншых ваколіцах арганізацыя ППР перастала існаваць».

Тое самае было і ў тагачасным Бельскім павеце (які ахопліваў цяперашнія Бельскі, Гайнаўскі і Сямяціцкі паветы). Арганізацыі ППР умацоўваліся і развіваліся толькі сярод беларускага насельніцтва. Гэты факт рэакцыйнае падполле старанна выкарыстала для сеяння ў польскім насельніцтве недружалюбнасці да беларусаў.

Аднак беластоцкая арганізацыя ППР не паддалася. Неадступна вяла выясняючую працу сярод усяго насельніцтва аб сутнасці гістарычных пераўтварэнняў ва ўсім краі, умацоўвала органы народнай улады і грамадскія арганізацыі, мабілізавала ўсе сілы на адбудову знішчанай гаспадаркі, службы аховы здароўя, асветы, культуры. І ў гэтым змаганні здабывала сабе прыхільнікаў. 1.I.1946 года на Беласточчыне ў радах ППР было 2581 член, у тым ліку 954 рабочых і 746 сялян. І праца, і ахвяры партыі не пайшлі на марна. Ва ўсенародным рэферэндуме 30 чэрвеня 1946 года 75% прыняўшых у ім удзел аддало свае галасы паводле заклікаў ППР на блок дэмакратычных партый за сацыялістычны шлях развіцця Польшчы.

Але рэакцыя не спыніла крывавага тэрору. За 1946 год ад яе куляў і пад яе нажамі на Беласточчыне загінула 423 чалавекі. Але ўплывы рэакцыі ў грамадстве меншалі з кожным днём. Беластоцкая ваяводская арганізацыя ППР узначаліла перадвыбарную кампанію ў Сейм. Было праведзена каля 5 тысяч сходаў і 2500 мітынгаў з удзелам кандыдатаў на паслоў. Выбары, якія адбыліся 19 студзеня 1947 г., прынеслі на Беласточчыне, як і ва ўсёй краіне, поўную перамогу сілам дэмакратыі. І хоць рэакцыя ўсё яшчэ не магла пагадзіцца з крахам сваёй палітыкі і ад яе куль гінулі лепшыя людзі (на працягу 1947 г. на Беласточчыне загінула 156 асоб), ППР і народная ўлада ў нашым ваяводстве перамагла на ўсіх франтах сваёй барацьбы. 19 лютага 1947 года Сейм аб'явіў амністыю. У яе выніку на працягу трох месяцаў аб'явілася на Беласточчыне 9.785 членаў рэакцыйнага падполля. Скарысталіся з яе тыя, хто належным чынам усвядоміў бяссэнсавасць і антынароднасць сваёй барацьбы.

Беласточчына пад кіраўніцтвам сваёй партыйнай арганізацыі актыўна ўключылася ў выкананне заданняў трохгадовага (1947—1949) гаспадарчага плана адбудовы і перабудовы сваёй гаспадаркі. Моцная і баявая беластоцкая арганізацыя Польскай рабочай партыі, у радах якой на 1.XI.1948 г. было 16 132 члены, ішла да гістарычнага акту аб'яднання ўсяго польскага рабочага рэвалюцыйнага руху. Ён наступіў у актавым зале Варшаўскага палітэхнічнага інстытута 15 снежня 1948 года на Аб'яднаўчым Кангрэсе ППР і ППС.

А ў тым жа часе на Беласточчыне ва ўсю моц працавалі адбудаваныя фабрыкі, перакочвалася рэха гудкоў паравозаў, поўніліся шчаслівым шчабятаннем школьныя класы. Штодзённае жыццё Беластоцкага ваяводства бурліла паскораным працавітым рытмам, уздымаўся з папялішчаў і прыгажэў наш Беласток.

Справа, распачатая 44 членамі Польскай рабочай партыі 13 жніўня 1944 года, прынесла багаты плён.

*М. Снарскі*



 

